**На памяць аб нашай сустрэчы**

## ІГНАТ ЗАСТАЕЦЦА!

Перасялілі жыхароў вёскі пасля чарнобыльскай аварыі. Жывуць-абжываюцца людзі на новым месцы, не адразу і пра Ігната ўспомнілі: а дзе ж ён і сапраўды, старэча, згубіўся, нешта не відаць? Кінуліся туды-сюды – няма. Старшыня калгаса і парторг вяртаюцца назад у вёску, заходзяць у Ігнатаву хату, а дзед, як ні ў чым, сядзіць за сталом у дружным акружэнні поўных і парожэніх бутэлек, жалобную песню спявае. Сам жа на добрым падпітку. Глядзіць ён асалавелымі вачыма на прыехаўшае начальства, непаслухмяным пальцам паграджае:

– За мной прыехалі, значыць? Не, не паеду. І не ўпрошвайце. Тут нарадзіўся, тут і загавею. Ды і хіба ж я дурань які ? Мне і тут добра, яй-бо. Курорт! А цяпер, я ж ведаю, куды землякі самагонку пахавалі, то мне піць-папіваць яе хопіць да канца свайго жыцця. Вяртайцеся. Ігнат застаецца!

Праз тыдзень за Ігнатам зноў прыехалі – на гэты раз старшыня сельсавета і парторг. Палохаюць Ігната:

– Памрэш жа!.. Радыяцыя вельмі высокая! Збірайся! Ды і мы даклалі вышэй, што ўся вёска эвакуіравана, а ты нас падводзіш, Ігнат. Калі дазнаюцца наверсе – мала не будзе. Нам. Не табе. Так што давай, давай! Ну!

– Х-хе, знайшлі чым палохаць – рацыяй,– заплюскаў вачыма Ігнат. – Нам жа, чуйце, на фронце таблеткі ў кацялок падсыпалі, каб да дзевак не карцела, дык яны, таблеткі тыя, ядры іх у корань, толькі праз трыццаць пяць гадоў пачалі дзейнічаць. Га?

## ПРА ЕЎРОПУ

Заспрачаліся неяк мужыкі, якая частка свету большая. Адзін кажа, што Азія, другі называе Амерыку, а Платон – Еўропу. А каб глянуць у які падручнік ці на карту – не глянеш: хто з іх, вяскоўцаў, трымае ўсё гэта?

Настаўнікі і вучні жывуць на цэнтральнай сядзібе, а ў Заліп'і – адны старыя.

– Ты вось кажаш, Платон, што Ёўропа большая, – счакаўшы, пакуль угамоняцца землякі, памяркоўна сказаў Іван Прылепа. – Няпраўду кажаш. Маленькая яна. Па тым мяркую, што ў вайну напіўся я ў цягніку, а пакуль праспаўся – то ўсю Еўропу і праехалі...

## ВАЖНЫ ДОКАЗ

Неяк у нас забаранялі шаферам падвозіць у кабіне пасажыраў. Яшчэ пры Гарбачове. Ведаў, канечне, пра гэта і Сідаронак – вадзіцель мясакамбіната. А яму якраз камандзіроўка – у самую Маскву: каўбасы адвезці.

– Збірайся,– сказаў Сідаронак жонцы. – Па магазінах пабегаеш, можа што з вопраткі купіш – там, у сталіцы, выбар лепшы.

Паехалі. Перад самой Масквой спыняе даішнік. Казырнуў. Папрасіў дакументы, а тады строга пытае:

– А чаму ў вас у кабіне пасажыр?!

– Дык гэта ж жонка!

– Розніцы няма – жонка ці хто. Нельга. Прыйдзецца вас наказаць.

– А ёлкі ж палкі!– развёў рукамі Сідаронак. – Як Гарбачоў сваю Раю катае па ўсім белым свеце, а мне родную жонку нельга на гэтым вось задрыпаным тарантасе раз за ўсё жыццё ў Маскву звазіць, Крэмль паказаць!

Міліцыянер засмяяўся, вярнуў дакументы: едзьце, так і быць. Доказ важны.

## ЧЫЙ САЛДАТ?

Васіль зноў успамінае армію.

– Генерал адзін у нас быў... Грузін. Мужык, скажу я вам, ціка-а-вы. Балакае – вушы растапырыш. З акцэнтам. З гумарам.

Адзін раз сабраў ён усіх камандзіраў палкоў, па гарадку ходзяць, спыняцца, нешта глядзяць, пастаяць-пастаяць, далей ідуць. А тут прама перад імі на дарозе куча ляжыць... Не буду гаварыць, вы здагадаліся – чаго. І

ўсе, як па камандзе, спыніліся, глядзяць на кучу. А генерал пытае:

– Чый салдат нарабіў?

Палкоўнікі і падпалкоўнікі паціскаюць плячыма, пераглядаюцца: хто яго ведае, чый, але не мой, здаецца. Мой на такое не здатны. Тут камандзір палка, па тэрыторыі якога ідуць, дапяў нарэшце, што раз куча на ягонай тэрыторыі, то і салдат, значыць, яго.

– Мой... – сказаў разгублена.

– Малайчына! Дай руку!– і генерал моцна пацiснуў разгубленаму камандзіру палка далонь. – Карашо сальдат корміш! Глядзі, какой балшой куча!

## НЕ ВЫРУЧЫЎ

Ідуць далей.

– Паказаць усім планшэты!– загадаў генерал-грузін, ходзіць ад афіцэра да афіцэра, глядзіць, што ў іх.

А ў іх – нічога: ні карт, ні алоўкаў, ні лінеек, ні компаса.

Побач праходзіць маладзенькі лейтэнант. Як і належыць, перайшоў на страявы крок, прыставіў руку да скроні.

– Да мяне, лейтэнант!

Лейтэнант падыходзіць, дакладвае.

– Вольна, вольна. Пакажы, таварыш лейтэнант, што сапраўдныя афіцэры павінны насіць у планшэце. Пакажы ім, палкоўнікам, няхай павучацца.

Лейтэнант збянтэжыўся, дрыготкімі пальцамі расшпіліў планшэт, а сам ледзь дыхае – ад страху.

– Паказвай, не стэсняйся!

І лейтэнант вымушаны быў паказаць плюскатую пляшку з моцным напоем, агурок і яшчэ нешта, акуратна загорнутае ў фірменную паперчыну гастранома.

Што было таму лейтэнанту – Васіль не помніць. Але, кажа, дужа генерал рагатаў. А калі генерал, то і ўсе астатнія, вядома.

## ПРЫДУМАЎ АНЕКДОТ

Нядаўна стаю на аўтобусным прыпынку, чакаю «васьмёрку». Падыходзіць п'яны мужчына і пытае , з цяжкасцю падбіраючы словы:

– Ка...как... тор...ая гадзі...на?

Я змерыў яго нязмушаным позіркам і, паколькі быў у добрым настроі, усміхнуўся і адказаў, не паглядзеўшы нават на цыферблат гадзінніка:

– Яшчэ рана, але вам пара ўжо спаць.

А потым, ужо ў аўтобусе, да мяне дайшло: я ж прыдумаў... анекдот.

Каб не забыцца яго, дома запісаў.

І прапаноўваю вам.

## ХІТРЫ СВАТ

У Сямёна два сваты, Пятрок і Рыгор. Жывуць яны ў суседняй вёсцы, не-не ды і прыедуць да яго ў госці. Сямён, можна сказаць, непітушчы, хоць і дабру прапасці не дазволіць, ды і хітраваты ён, а яшчэ больш – скнара. Што ж да сватоў Пятра і Рыгора, то яны мужыкі прасцецкія і чарку дужа паважаюць.

– Сядайце, сваточкі, да стала бліжэй, – запрашае Сямён, рэжа хлеб, скрыліць сала, агурок і ставіць на стол бутэльку і дзве шклянкі.– Добра, што прыехалі. Ну, як там дзеці нашы? Не лаяцца? Мірна, кажаце, жывуць? То і добра. Давайце за гэта вып'ем.

Сямён налівае ў дзве шклянкі, адну бярэ сам, другую падае Петраку, яны абодва выпіваюць, а Рыгор назірае. Закусваюць. Потым Сямён зноў налівае ў дзве шклянкі. Адну бярэ сам, другую падае Рыгору.

– Ну, а цяпер давай, сваток, з табой вып'ем.

Выпіваюць. Паўбутэлькі Сямён, паўбутэлькі Пятрок з Рыгорам.

І заўсёды так.

## ПРЫЕХАЛІ МІЛІЦЫЯНЕРЫ

Сонька заявіла ў райаддзел міліцыі, што яе мужа Сямёна напаіла бабка Маруся – так аддзячыла яна,

маўляў, за тое, што ён разагнаў некалькі барознаў бульбы. Прасіла прыняць меры, бо муж зусім співаецца. Прыехалі міліцыянеры, пытаюць у бабкі Марусі:

– Самагон ёсць? Толькі чэсна!

– Дык… яно ж… ага ,– разгубілася старая.

– Даставай сама, а то будзем шукаць!

Бабка Маруся паставіла на стол пачаты трохлітровы слоік.

– І гэта ўся, – сказала.

– Паверым. Ну, а цяпер давай апарат.

– Дык… я ж, дзетухны, сама ўжо не адужу, дык… ага… суседа Цімку папрасіла, каб і для мяне, калі сам гнаў, заадно выціснуў. Ён часта выручае.

Міліцыянеры пайшлі да Цімкі. Той таксама не паспеў апрыходваць самагон – выставіў і ён усе банкі-шклянкі. І яшчэ апарат.

– Эх, людзі! – лаяўся Цімка. – Ведаю, ведаю, хто мяне залажыў. А больш і няма каму, як Лявону: дражджэй яму не пазычыў, дык цяпер во помсціць, паразіт! Ён, таварышы міліцыянеры, шапну я вам, так і быць, учора п'яны быў, сам бачыў. Дзе ўзяў? Пытанне законнае, бо ў краме нічога выпіць няма – пасяўная. Га?

У Лявона міліцыянеры забралі апарат і ўвесь самагон.

– Каб знаў, што такая штукенцыя атрымаецца, і сёння б напіўся, – гаротна ўздыхнуў Лявон. – А гэты Пахом, мушу вам сказаць, гнілы чалавек, ён адзін толькі ведаў, што я гнаў самагон. І данёс, га? У мяне з ім свае рахункі. Даўнія. Нічога, нічога, разбярэмся. Дык вось, таварышы міліцыянеры, мушу сказаць вам: учора Пахом паўдня ваду насіў – бы ў лазню, а тае ў яго няма. Што гэта значыць?

У Пахома ў вялікай бочцы стаяла брага – літраў 200, не менш.

– Брагу выліць, а бочку разламаць! – загадаў старшы з міліцыянераў.

– Э-э, не-не, бочку не ламайце! – узмаліўся Пахом. – Мяне ж тады ўсёй вёскай павесяць. Раздзяруць! А як жа! Калі якая ў каго вялікая гулянка намячаецца, то яе, бочку, і бяруць у арэнду ў Кандрата – за літру першаку. Так што, таварышы міліцыянеры, зразумейце мяне: што хочаце

рабіце, любы штраф вытрымаю-перажыву, а ёмістасць гэтую нярушце...

Бочку міліцыянеры пакінулі, пашкадавалі – усё ж рэч добрая, дзе цяпер такую знойдзеш, а штраф далі ўсім.

– Во нарабіла дзялоў наша Сонька! – круцілі галовамі вяскоўцы, уздыхалі, ахалі-охалі, аднак у вочы той не выказваліся: ёй і так гора, калі муж п’яніца.

## НЕ ДАНЁС

Прыехалі ў вёску артысты. На сцэне людзей пацяшаюць, ажно ў тых слёзы на шчоках блішчаць. І старшыня калгаса, звычайна строгі і насуплены, бы індык, на гэты раз не хаваецца – прамакае і прамакае насоўкай вільгаць на твары, а жывот трасецца ў яго, нібы баксёрская груша ад моцных удараў.

У антракце старшыня паманіў да сябе пальцам загадчыка клуба Мамоньку. Падзяліліся ўражаннямі. Спектакль жа, вядома, падабецца. Камедыю ўсе любяць. Тым больш вясковую.

– Гэта добра, – сказаў старшыня. – А вось пра кветкі мы забыліся. Артысты заслугоўваюць , каб ім прыпаднесці букет. Трэба арганізаваць.

– Будуць, будуць кветкі! – запэўніў Мамонька. – Гэта мы ў момант! Прасцей простага! – і ён паклікаў маладога кінамеханіка Кольку Цярэшку: – Дзе хочаш, там і даставай, але каб к канцу спектакля кветкі былі!

– Нарву, – ляніва паабяцаў кінамеханік.

Ён і нарваў цэлае бярэмя кветак. Пад акном сваёй хаты растуць – праблемы вялікай няма. Нясе Колька Цярэшка кветкі, удыхае прыемны іх пах, а насустрач якраз ягоная каханка, дачка старшыні Кацька, яна ў горадзе вучыцца , і вось прыехала апошнім аўтобусам.

– Ой! – успляснула рукамі Кацька, заірдзелася ўся. – Што гэта з табой, Колька, зрабілася? Не пазнаю. Праўда. Ты і не ты. Першы раз мяне сустракаеш і з такім прыгожым букетам. Кветкі... гэта мне?

– Ну а каму ж! – праз сілу ўсміхнуўся Колька і працягнуў Кацьцы букет, за што атрымаў кароценькі пацалунак у шчаку.

А ў клубе ўжо закончыўся спектакль. Старшыня, стоячы на авансцэне і стрымліваючы хваляванне, пагрозліва глядзеў на загадчыка клуба Мамоньку, той шукаў вачыма кінамеханіка Кольку Цярэшку, уяўляючы, што з ім ён зробіць, калі сустрэне…

Цяпер у вёсцы, калі хто з мужчын пойдзе за чым-небудзь і вернецца з пустымі рукамі, жанчыны не прамінуць ушчыпнуць: «Цябе, ёлуп стары, пасылаць усё адно, што Кольку- кіншчыка за букетам!»

## НЕ ПАЖАРНІК!

На курорт Прымак ездзіў яшчэ пры Хрушчове, « у дзеўках», як любіць ён казаць. Збіраюцца, бывае, вясковыя мужыкі на прызбе дзе, просяць Прымака:

– Раскажы, Васіль, як ты на курорт ездзіў.

– А што расказваць?– Прымак крыху ўпарціцца, а потым зрывае з галавы кепку, кладзе яе на калена, прылізвае далоняй растапыраныя валасы. – Што было, тое было. Ездзіў. Ага. Добра там. Дрэвы такія прыгожыя растуць… во забыўся, як называюцца… але іголкі доўгія і не коляцца, халера.

– Ты нам не пра іголкі,– хто-небудзь з мужыкоў перапыняе Прымака.–Ты нам лепш пра баб… Не адну, пэўна, ашчаперыў?

Прымак усміхаецца:

– Было… Хлусіць не стану. Іх там, мужыкі, любога каліберу. Адна за мной увязалася-- праходу не давала. А я за дрэва схаваўся, рукамі махаю: кыш, кыш, не падыходзь, а то крычаць буду! Дзе тут участковы? Мо заразу якую хоча перадаць з таго курорту? І не даўся. А яна: « У мяне пуцёўка гарыць!» А я што табе-–пажарнік?

Мужыкі дружна смяюцца. Мо дзесяты раз слухаюць яны Прымака, і кожны раз слёзы на вачах…

## ГРАМАТНА ЛАЕ

У мясцовую бібліятэку прыехала новая загадчыца – выпускніца тэхнікума. Не лічачы дзяцей, актыўных чытачоў было двое – Шурава жонка і малады настаўнік, гісторык.

І вось аднаго разу адчыняе дзверы бібліятэкі Шура і гаворыць:

– Ты вось што, дзеўка: маёй жонцы каб болей не давала кніжак чытаць!

– Чаму?

– Як гэта – чаму? Начытаецца, гэта самае, а тады як пачне мяне граматна лаяць, што я і слоў у адказ знайсці не магу... Чула?!

## НЕ ПАВЕРЫЎ

Шура сабраўся выгнаць самагон. Прымазаў, як і належыць, чыгунок, паставіў на газ, а сам рашыў – пакуль той будзе награвацца – перакурыць і на людзей глянуць. Патупаў на вуліцу. Сеў на бервяно. Засмуголіў. Пад'ехаў на веласіпедзе ўчастковы. Павіталіся.

– Ну, чым займаешся? – пацікавіўся міліцыянер.

– Самагон ганю,– спакойна адказаў Шура.–Толькі што чыгунок прымазаў. Прыязджай пазней – дам паспытаць.

– Цьфу, балбатун ты, Шура! З гадамі хоць бы розуму набраўся – ведаў, дзе і калі пажартаваць, – участковы пакруціў галавой па баках, сеў на веласіпед і пакаціў далей па сваіх справах.

## НЕ УМЕЮЦЬ

Аднаго разу прыехалі ў вёску міліцыянеры забіраць, згодна нейкаму там спісу, дужа заядлых выпівох на прымусовае лячэнне ў спецбальніцу. Быў у тым спісе і Шура. Усіх і падмялі. Акрамя Шуры. Пазней ён пераможна гаварыў вяскоўцам:

– Піць не ўмеюць, таму і падшкраблі ўсіх. А трэба так: калі налізаўся, то не шлындай па вуліцы, а ў разору – юрк і спі. Там хоць і надоўга заснеш, то ўсё роўна людзі знойдуць, як бульбу капаць пачнуць.

## ПЯЧНІК І ТАМ ПЯЧНІК

Памёр Лёха. Добры пячнік.

Аднойчы Шура сур'ёзна казаў землякам:

– На клодаўі быў. І там Лёха пры дзелі. Сам бачыў, яй-бо: з кожнага крыжа дым вяроўчынай валіць – нарабіў і на тым свеце людзям грубак, печаў, камінаў. Не прападзе Лёха. Толькі вось адно кепска: без мяне там раскашуе за сталом. Грошы ж, канешне, лапатай грабе. Эх!..

### ... А ТЫ – У КРАМУ

Прыехаў малады хлапец у водпуск. Шура перастрэў таго на шырокай вясковай вуліцы. Парукаваліся.

– Ты вось што: заскоч у краму, а я пайду тваім бацькам гаварыць, што ты, блазнюк, заявіўся. Дзейнічай! – і Шура забраў у разгубленага хлапца чамадан і, не азіраючыся, пашыбаваў па вясковай вуліцы.

Таму нічога не заставалася, як зайсці ў краму.

### ПЛЮС

У мясцовай краме Шура падвярнуўся пад гарачую руку Галіне Сцяпанаўне, на той час яна была дырэктарам школы-васьмігодкі і мела несумненны аўтарытэт сярод вяскоўцаў.

– Як табе не сорамна, Шура? – пачала даваць яму ўзбучку. – Увесь адэкалон папіў, а людзі во для звычайных жыццёвых патрэб не могуць купіць!

Шура ўважліва выслухаў Галіну Сцяпанаўну, нават брывом не павёў, і сказаў:

– А тут і плюс маецца. Калі сапсуеш паветра, то вам жа прыемна пахне...

### ЗА БІЛЕТАМІ

– Ты, Пятро, за кім чаргу заняў?

– Вось за гэтай жанчынай...

– Цьфу! Колькі разоў табе гаварыў, каб за жанчынамі ніколі чаргі не займаў: яна ж пяць разоў перафарбуецца, пакуль выстаіць, а тады і канцоў не знойдзеш!

## ЗА ХЛЕБАМ

– Ой, людцы, прапусціце мяне,– бядотным, кволенькім галаскам папрасіла бабулька.

– Што, унук адзін дома застаўся? – незадаволена вырачыў вочы вусаты дзяцюк.

– Ды не, унук, дзякаваць Богу, даўно вырас.

– Дык чаго ж тады лезеш, галаву задраўшы? Ці, можа, ваявала? Дык нас тут багата такіх.

– Ды не, дзеткі мае, не... Гэта ж пенсія ў мяне маленькая... Дужа маленькая... Дык вось баюся – пакуль у чарзе пастаю за хлебам – ён зноў падаражэе...

## ЗА ГАРЭЛКАЙ

Мужчына:

– Таварыш прадавец, адпускайце па адной бутэльцы на чалавека.

Прадаўшчыца:

– Адкуль я ведаю, хто з вас колькі можа выпіць?

## ХТО СВІСНЕ?

На камісію, вядомую як УТЭК, прыйшоў хворы бранхіяльнай астмай. Пазнаёміўшыся з гісторыяй хваробы, адзін з членаў камісіі гаворыць:

– І чаго вы хочаце ад нас? Ну, не можаце працаваць на экскаватары, ідзіце на лягчэйшую работу – вартаўніком хоць бы. А групу, самі разумееце, даць вам пакуль не можам.

– Вартаўніком, кажаце? – паглядзеў на членаў камісіі хворы. – Добра, пайду я вартаўніком. Адзін раз я свісну, а хто свісне за мяне другі?

## І БУДЗЕМ ПАРЫЦЦА

Дзед Ахрэм чыкільгае па вясковай вуліцы з чаранком у руцэ. Іду яму насустрач. Павіталіся.

– Ніяк дрэўца пасадзіць рашыў, Карпавіч?

– Э-ге, угадаў. Вось схадзіў на край сяла, выкапаў у ліпніку. Гэта ж такая справа, братка... Лазню склаў. Дык

параілі добрыя людзі абшаляваць усяродку з ліпавых дошачак – для здароўя, кажуць, добра. Вось пасаджу дрэўца, пачакаю, пакуль вырасце яно, а тады дошачак напілуем… і будзем парыцца!

## ДОБРЫ ЗЛОДЗЕЙ

Людзі кошыкамі носяць грыбы, і Макару захацелася ў лес. А ён далекавата – пехатою старому цяжкавата тупаць, таму рашыў скарыстаць веласіпед, хоць з ім і марокі будзе, але нічога, рашыў дзед, як-небудзь пралезу ў гушчары.

Першай справай Макар рашыў пацікавіцца, ці ёсць грыбы: даўно хадзіў, ужо і мясціны пазабываўся. Прытуліў веласіпед да бярозкі, пакінуў на рулі і кошык, а сам рашыў прайсці па ўскрайку. Знайшоў адзін грыб, другі, трэці… І сам не заўважыў, як лясныя дарункі заманілі яго ўглыб, а калі грыбы займалі ўсе рукі, пакіраваў да веласіпеда. Але таго не было каля бярозкі – стаяў толькі кошык. «Ішчы-свішчы»,– сумна ўздыхнуў Макар, падняў кошык і патупаў, азмрочаны, у лес.

Суседзям жа Макар казаў:

– Веласіпед забраў, паразіт, а кошык пакінуў. Каб не кошык – куды б я грыбы падзеў? Добры злодзей трапіўся, аднак!..

## ВЯРНІЦЕ ГРОШЫ

Паехаў механік Сцяпан Кавалёнак у камандзіроўку, каб прабіць нешта з запчастак для калгаснай тэхнікі. Спыніўся ў гасцініцы. За пражыванне там заплаціў за трое сутак наперад – думаў, што яму доўга давядзецца абіваць парогі, а справа вырашылася ў першы дзень. Можна вяртацца. Але як жа забраць грошы ў гасцініцы? Не дараваць жа.

– Ад’язджаю, а я вам заплаціў наперад, то вярнуць бы грошы, – крыху хвалюючыся, паглядзеў ён на адміністратара.

– Пішыце заяву, – жанчына падала Сцяпану аркуш паперы.

Сцяпан добра ўмеў круціць гайкі, а вось пісаць – не мастак. І ледзь вымучыў наступныя словы: «Прашу вярнуць мне грошы за не пражытае жыццё…»

## ДВА ПАРСЮКІ

Даўно было, яшчэ ў пяцідзесятыя гады, калі ў мястэчку Старыя Журавічы знаходзіўся раённы цэнтр, а Хведар працаваў у ваенкамаце конюхам. І вось аднаго разу высокі начальнік раённага маштабу папрасіў яго, каб той закалоў і абсмаліў парсюка.

– Давай яго сюды! – ахвотна згадзіўся Хведар. – Будзе зроблена!

Закалоў парсюка, закінуў – не без дапамогі гаспадара – на фурманку, і пакіраваў у лес: звычайна такія аперацыі праводзіліся там – падалей ад саламяных стрэх.

Па дарозе Хведар завярнуў да знаёмай жанчыны, удавы, загадаў той паказаць яе парсюка.

– Малы, канешне, але нічога – пара яму ў кадку, а то, бачу, без скваркі жывеш, – сказаў ёй.

– Ды не, хай яшчэ пакорміцца, куды ж яго такога, – не пагадзілася жанчына.

– Менш размоў!

І неўзабаве на фурманцы ляжалі два парсюкі – вялікі і маленькі.

Звечарэла, калі Хведар, зрабіўшы ў лесе ўсе свае справы, вярнуўся ў мястэчка. Спярша заехаў да жанчыны, сцягнуў з воза вялікага парсюка.

– Дык гэта ж не мой! – успляснула рукамі жанчына.

– Твой не твой, бяры, еш на здароўе. А што пабольшаў, дык ад вуголля.

– А мо і так?..

Гаспадар жа вялікага парсюка, убачыўшы на возе подсвінка, здзіўлена глянуў на Хведара:

– Ты што мне прывёз?! Я ж табе даваў вялікага парсюка, а гэта ж – заяц нейкі?!

– Заяц, кажаце? А каб я вас дзве гадзіны папёк вуголлем, то хацелася б мне паглядзець, якімі б вы сталі пасля ўсяго?

Гаспадар пацiснуў плячыма – а мо i сапраўды так? – i разлiчыўся з Хведарам за працу кавалкам свежыны i добрай чаркай.

А калi я пра гэты выпадак ведаю, то ведаюць i людзi. Пасмяюцца. Хведара Iванавiча Тарасава ўспомняць: во мужчына быў!

## БАГАТА МЕХАНIКАЎ

Мiкола Жлобiч падрулiў на веласiпедзе да крамы, спынiўся каля мужыкоў, што на прыступках байкi баiлi.

– Мiкола, ты паглядзi на свой веласiпед! – усмiхнуўся Бародзiч. – Багажнiк адвiнцiўся, ледзь лiпiць. Спiц няма – праз адну. Сядло на бок глядзiць... Як ты ездзiш?

Мiкола i сам здзiўлена пачаў разглядваць свой веласiпед, нiбы ўпершыню бачыў, а тады кажа:

– Праўда ж, га! Столькi непаладак! Затое ў мяне, мужыкi, механiкаў багата.

Ён меў на ўвазе сыноў-жанiхоў – iх ажно трое ў яго.

## ЗАБЕГ НАПЕРАД

Восень. Бабiна лета. Бярэзнiк.

Мазурчык прытупаў з вядзерцам, шукае грыбы. Трапляюцца рэдка – ведама ж, такiх, як ён, тут процьма. Падбiўся да кучкi людзей, павiтаўся, пацiкавiўся – проста так, каб нешта сказаць – наконт грыбоў, i, узiраючыся пад ногi i зiркаючы па баках, падаўся ад тых. А ззаду раздражнёны голас:

– Мужык! Ты куды наперад забег?

## АПРАЎДАЎСЯ

Вяртаецца з лесу Цiмка. На рулi боўтаецца кошык. У вёсцы каля мужыкоў спынiўся – прыкурыць, апошнюю запалку патрацiў у лесе.

– А чаго ў цябе грыбоў мала, Цiмка? – пацiкавiўся адзiн з вяскоўцаў. – Усе ж нясуць з каптурком.

Цiмка пыхнуў дымком i кажа:

– Ды руль, бачыце, які? Тарчыць угору, як антэна, і як ты кошык не чапляй, ён усё роўна куляецца на бок. Калі б поўна грыбоў насабіраў – палавіну б па дарозе пасеяў: павывальваліся б грыбы, як піць даць.

## ГАРАДСКАЯ КУРЫЦА

Дзед Міхал і бабка Матруна сядзяць на лаве, адпачываюць, пра жыццё- быццё гамоняць. Каля іх табуняцца куры.

– А вэн тая, рыжая, так і не нясецца, халера, – паказвае бабка Матруна. – Зусім абляні́лася.

– Бачу, бачу яе, анціхрыстку, – выбраў надслепаватымі вачыма з гурту рыжую курыцу дзед Міхал. – Прыгледземся яшчэ з тыдзень: не выправіцца – у супчык яе. Пачакай, дык гэта з тых куранят, што сын прывёз?

– Агы.

– Чаму тады здзіўляцца: гарадская курыца. Бач, бач, стаіць, як каралева, сама нават лянуецца корм шукаць – певень для яе грабае…

## ДАЖЫЛІСЯ

Пятрок пасварыўся з жонкай. І было за што – прапіў са сваёй сціплай пенсіі ажно пяць тысяч, таму і атрымаў на сухары.

– Я ж ваяваў!.. Я ж будаваў!.. – апраўдваўся Пятрок. – Утаплюся, а з такой бабай жыць больш не буду. Усё. Хопіць. Кропка.

Пятрок апрануў новы касцюм, ідзе да калодзежа.

– Ты куды? – пытае сусед.

– Да калодзежа. Тапіцца буду. Жыць абрыдла.

– Не атрымаецца ў цябе, братка, – спакойна, быццам кожны дзень топяцца людзі ў калодзежах, гаворыць сусед. – Вады ў студні няма – паўвядра вось ледзь зачэрпаў, і тая брудная, а ты ж у новым касцюме.

– Цьфу! Дажыліся! І ўтапіцца няма дзе!..

## НЕ ВЕДАЎ

Звоніць сябру з бальніцы хворы, пацікавіўся, ці даюць зарплату.

– Даюць.

– Глянь, а мне там налічылі?

Паўза. Потым пытанне:

– Паслухай, а як тваё прозвішча?

– Смык, – адказаў, здзівіўшыся, хворы.

– Цьфу ты! А я думаў, што гэта твая мянушка...

## КЛЕШЧ

Мітрафан гасцяваў у дачкі на Урале. Калі вярнуўся, вяскоўцы распытваюць, што там і як. Цікава ж.

– Ды жывуць людзі, не скардзяцца, – гаварыў Мітрафан. – Хлеб ядуць. Што дужа ўразіла, дык грыбоў там багата. Ездзіў і я. З зяцем. На манцыклеці. Збірайся, кажа зяць. І падае мне кучу трантаў. Цёпла ж, ранняя восень, навошта столькі ўсяго на сябе напяльваць? А ён, зяць, сур'ёзна гаворыць: ты нашага кляшча не ведаеш, бацька. Увап'ецца ў цела – і капут. Ніводны доктар не ўратуе. І, гляджу, чаго толькі на сябе не нацягвае. Апрануўся. Адны вочы і нос тырчаць. Э-не, кажу, у грыбы я паеду толькі налегцы. А якое ж гэта збіранне, калі будзеш апрануты, як куль? Во так паеду, як стаю. Глядзі, кажа, не маленькі, прымушаць не буду. І што ж атрымалася? У зяця клешч упіўся. А я хоць бы што.

– І памёр? – жахнуліся вяскоўцы.

– Ды не, трасца яго не возьме. Ён, аказваецца, на сотню адзін бывае клешч заразны. Але ж куды ўпіўся, халера ясная?! – Мітрафан гучна смяецца.

Здагадваюцца, куды ўпіўся клешч, і вяскоўцы. Таму стаіць дружны рогат.

## ХУТЧЭЙ ПАБЕГЛІ!

Першыя дні пасля вядомага ўказу па барацьбе з п'янствам і алкагалізмам. Прыехалі ў вёску з тэлебачання на вяселле, якое мелася быць цвярозым, каб усім паказаць, што можна і на такім мерапрыемстве абысціся

без чаркі. А там у адной хаце сталы накрыты, дзе замест бутэлек з гарэлкай і віном стаяць напіткі, сокі, ліманады розныя, а ў другой, цераз дарогу, – усё наадварот. Мужыкі вып'юць па чарцы, похапкам закусяць і паспяшаюць адзін аднаго:

– Хутчэй пабеглі ў тэлевізар паказвацца!..

## ХТО СТРАЛЯЎ?

Да ўчастковага Кузоўкі прыехаў начальнік з горада, яны селі ў легкавік ды паехалі «на прыроду». Цяпельца расклалі ў лесе, сала смажаць на лаўцах – роўненькіх бярозавых пруціках, закусваюць і іншымі прысмакамі. І раптам паблізу недзе грымнуў ... стрэл. Кузоўка ледзь не папярхнуўся, прыпыніў перад ротам смажанае сала, здзіўлена-перапалохана глядзіць на начальніка: «Маць часная! У маім лесе страляюць. Гэта ўжо замнога. Паляўнічым рана яшчэ паліць. Няйначай, крымінал...»

– Вы пасядзіце, а я гляну, хто гэта пальнуў, – сказаў Кузоўка, і толькі ён узняўся, як стрэлы, адзін за адным, прасвісталі зусім блізка. – Няўжо і ў нас паўзбройваліся?

Участковы подбегам паімчаў на стрэлы. А ўжо і лес скончыўся. Статак кароў пасвіцца.

– Ты не бачыў, хто тут страляе? – перавёўшы дыханне, глядзіць участковы на пастуха, немаладога ўжо чалавека.

– Не чуў, – пацісннуў той плячыма.

– Паглохлі ўсе, а тут пад носам паляць!

– А-а, вось вы пра што ! – засмяяўся пастух. – Гэта ж сына я меншага вучу страляць, а вы за сапраўдныя стрэлы прынялі. Лёнька, пакажы вось таварышу міліцыянеру, як ты ўмееш...

Лёнька на ўсю даўжыню раскаціў перад сабой пугу, падцягнуў крыху яе, прыўзняў пугаўё, і шчоўкнуў... Стрэл атрымаўся, што і пісталету не ўступіць.

Лёнька шчаслівы, што стрэльнуў добра пугай. Бацька радуецца, што не падкачаў той. А Кузоўка, плюнуўшы, думае, што ж сказаць начальніку. Апраставалосіўся дык апраставалосіўся!

## ПАХВАЛІЎСЯ

Каля кіёска «Спрынт-лато». Невялікая чарга. Мужчына, якому дзесьці гадоў сорак, быў крыху выпіўшы і меў у кішэні даволі тоўсты пук грошай, таму нагроб «спрынту» амаль паўшапкі, і, шчасліва зіркаючы па баках, гаварыў:

– Не можа быць, каб не выйграў. Носам чую: сёння павінна нешта быць. Сон жа прысніўся!..

Ён, стаўшы ўбаку, з асаблівай асалодай разрываў «спрынт», моршчыўся – няма нічога, пуста, і кідаў цяпер ужо звычайнае смецце ў спецыяльна адведзеную для гэтага скрыню.І раптам:

– Я ж гаварыў!.. «Волга»!.. Ага!..

На яго ўсе вылушчылі вочы: шчасліўчык! Мужык жа схаваў «спрынт» падалей у кішэню і адкланяўся. Аднак знайшліся ў той чарзе ці каля яе людзі, якія пакаралі хвалько – падсцераглі за вуглом, забралі «спрынт», дзе ўсяго і было адціснута «без выйграшу», але ж надавалі кухталёў, прытым два разы. Першы – каб не крычаў, калі на яго напалі знянацку, другі, калі даведаліся, што схлусіў.

Бывае!

## ПАДВЯЛІ

Адзін хворы пазнаёміўся з прыгожай дзяўчынай, якая знаходзілася ў суседняй палаце, і пачаў да яе заляцацца. Прапанаваў ёй цікавы дэтэктыў. Тая паабяцала зайсці ў палату. Сядзіць, чакае. А тут выклікаюць яго на чарговую працэдуру. Хворы даў наказ суседзям па палаце:

– Загляне, браткі, прыгожая дзяўчына, папытае мяне, то вы перадайце ёй вось гэты дэтэктыў. Абяцала зайсці, толькі нешта няма...

Праз колькі часу у палату заглядвае жонка хворага:

– А дзе Віктар?

– А-а, гэта вы і ёсць тая прыгожая дзяўчына. Чакаў, чакаў ён вас. Але пакуль заняты, таму прасіў перадаць вам вось гэты дэтэктыў...

## У ЦК…

У Мінску, калі надараецца магчымасць, заходжу да калегі-пісьменніка, з якім разам узбіваліся на літаратурнай ніве, таму ёсць што ўспомніць, аб чым пагаманіць. Кватэра ў яго на першым паверсе. Пасля законнага стала выходзілі на зашклёную веранду перакурыць. Распахвалі насцеж вокны, пыхкалі дымком і пэўны час глядзелі на прасторны двор, дзе віравала сваё жыццё.

Неяк на ганку з'явілася бабулька, паглядзела на нас, павіталася.

– Я ў ЦК, на работу… – сказала чамусьці яна, і сказала больш да мяне, чым да сябра.

І схавалася за вуглом.

– Суседка, – сказаў калега. – Бабка Вера. У ЦК працуе. Прыбіральшчыцай.

## ПРА НОГІ

Міхей паехаў з жонкай у горад – купіць тое-сёе. У абутковай краме жонцы прыглянуліся туфлі.

– Як бы памераць? – асцярожна паглядзела яна на прадаўшчыцу.

– Памерайце. Толькі шкарпэткі на ногі надзеньце.

– Шкарпэткі? Ага! – І да Міхея. – Разувайся! Шкарпэткі трэба!

Міхей замуляўся, а потым і зусім драпнуў з крамы. Пачакаўшы жонку на вуліцы, бурчэў:

– Розуму ў цябе зусім няма! Шкарпэткі давай ёй! А ты падумала пра тое, што ногі ў мяне брудныя, хоць рэпу сей. Га? І гэта я свае такія ногі павінен быў усім паказваць, галава твая садовая!

## НЕ ВЕРЫЎ

Жыў у Іскані Міколка – шчупленькі, рухавы і гаваркі дзядок, гадоў восемдзесят яму было. Нядаўна памёр. Памёр, але, відаць, так і не паверыў, што фігурысты і сапраўды могуць круціць па лёдзе розныя піруэты. Усё гаварыў:

– І вы во верыце, што чалавек на такое спасобны? Ярунда! Дурацць народ!

Але фігурнае катанне па тэлебачанні глядзеў да апошняга – хацеў, мабыць, дакапацца да ісціны...

## КУПІЎ КАЗУ

Мітрафан купіў казу. З горада прывёз.

– Навошта табе яна? – дзівяцца землякі. – Карова ж ёсць.

– Нічога вы не разумееце, – разважліва адказвае Мітрафан. – Карова хай будзе. З ёй клопату, асабліва ўлетку, мала. А вось каза-а-а! Я ж, мужыкі, да яе жонку прывязаў. Ага. Праўда. Вы даўно бачылі маю Клаўдзію? Даўно. То-та ж. А дзе яна? Казу пасе. А то ж дома сядзім цэлымі днямі і начамі, абрыдлі адзін аднаму, сварымся без дай прычыны. А так яна з казой цэлы дзень прабавіцца, а тады стомленая прыпаўзе дахаты – свеціцца ўся: даўно ж не бачыліся, засумавала. Як у маладыя гады. І не сварымся. Так што каза хоць і малая, дробная істота, а вялікую справу робіць. Разумець трэба!

## НЕ ХАПІЛА

У невялічкай лясной вёсачцы, дзе некалі набыў я хату пад дачу, на рамонце крама, і людзей так-сяк выручае аўталаўка – раз на тыдзень, па панядзелках, прывозіць хлеб, муку, цукар. Звычайна яна спыняецца ў цэнтры сяла – каб усім роўна было ісці.

Перада мной у чарзе бабка Акуліна з пукам грошай.

– Мне батон і два боханы хлеба. Унукі прыедуць, – просіць старая.

Бабка Акуліна доўга лічыць грошы, а тады, не справіўшыся з гэтым заняткам, падае ўсю наяўнасць шафёру- прадаўцу:

– Адлічы, дзетка, сам, колькі трэба...

Той узяў грошы, разгарнуў іх перад сабой, бы карты, ды і кажа:

– За гэтыя грошы, бабуля, можна ў горадзе раз усяго ў тралейбусе праехаць.

– Праўда? – дзівіцца старая. – А багата ж!

У чарзе незласліва засмяяліся. А бабка Акуліна разгублена замітусілася і неўзабаве паклыпала дахаты – за грашыма, папрасіла толькі, каб боханы пачакалі-паляжалі: унукі ж прыедуць.

І людзі, заўважаю, таксама пачынаюць пацiху лічыць свае грошы – а раптам і ў тых шмат, ды што карысці? На бохан хлеба не хопіць.

## ПІСЬМО

Юрка прыехаў да сваіх сыноў у горад, яны – двайняты – пасля арміі робяць на будоўлі і жывуць у добраўпарадкаваным інтэрнаце. Бацька пацікавіўся, як маюцца сыны, а тады сказаў:

– Воўка, а ты чаму ж не пішаш Марыйцы? Сумуе суседка, бачу. Сохне. Узяў бы ды і напісаў ёй, калі сам не можаш пакуль, гаворыш, прыехаць. Хіба цяжка?

– А што я напішу? – пацiснуў плячыма Воўка. – Тры месяцы не пісаў, а цяпер няёмка. Апраўдвацца ж неяк трэба.

– Што напішу, што напішу! – незадаволена прабурчэў бацька. – Эх, жаніх! Мне б твае гады! Бяры ручку, будзем разам пісаць.

Воўка заўсміхаўся, але паслухаўся. Пішуць. Бацька дыктуе:

– Дарагая Марыйка! Прабач, што даўно не дасылаў табе весткі. Не было, павер, часу. Камандаваць генераламі – гэта даволі цяжкая справа, і калі мяне паставілі над імі начальнікам, я толькі тады зразумеў, якая гэта нялёгкая праца. Не слухаюцца, каб ім!... Шчыпаюцца, штурхаюцца... І так стамляюся за дзень, як не стамляўся на будоўлі, калі рабіў мулярам. Пішаш, Воўка? Пішы, пішы...

Такое пісьмо атрымалася, што яго хоць у газету. Во ўжо насмяяліся сыны з бацькам, пакуль пісалі!

## У ТРАМВАІ

Юрка з сынамі ехаў у трамваі – хлопцы рашылі паказаць бацьку горад. А справа была якраз пасля дожджыку, і на адно сядзенне накапала, таму яно і было не занята. Бацька стаяў-стаяў, а тады сеў на ўскрайчык:

лепш кепска сядзець, чым добра стаяць. І адразу жанчына:

– Пасунься, дзед!

Юрка паглядзеў на сыноў, на жанчыну, на мокры лапік на сядзенні, і сказаў на ўвесь трамвай:

– Дык гэта я што – з дзярэўні ехаў спецыяльна вам тут , у горадзе, сваім задам сядзенні праціраць!

## ШТО ЗА ДЗЕЎКІ!

Адна мая знаёмая скардзілася:

– І што ў мяне за дзеўкі, каб ім мулка спалася і мала елася! Раз дадуць хлопцам – і брухацеюць, поўная хата ўжо ўнукаў, а бацькі ніводнага! У людзей жа і больш гуляюць, і слядоў нямашкі. А хоць і панясе якая, дык потым замуж возьмуць. А ў мяне? Вунь яны, вунь яны, квактухі, са сваімі вывадкамі!..

## НАЕЛІСЯ

Пасля вайны дужа смачнымі здаваліся нам бліны з бульбы-гнілушкі – праснакі. Яе збіралі на калгасным полі ўвесну, трохі цёрлі на драчцы, трохі таўклі ў чыгунку, а мама смажыла на патэльні, цёпленькія падавала нам. Смаката! Лепшай ежы, відаць, не было на свеце.

І вось неяк нам з бацькам захацелася зноў тых блінцоў. Насабіралі бульбы, насмажылі. І ... не елі. Нават пасля чаркі.

Мама шчасліва ўсміхалася:

– Добра я вас тады накарміла праснакамі, што і сёння сытыя.

## ВЫКРУЦІЛІСЯ

Акрамя шафёра, у кабіне «газіка» было яшчэ тры пасажыры. Перабор. Сядзелі – не варухнуцца. І, як на тое ліха, падвярнуўся на аўтастрадзе даішнік. Спыніў грузавік.

– Трымайце мяне! – хуценька знайшоўся пасажыр, які сядзеў пасярод.

І як толькі даішнік заглянуў у кабіну, ён пачаў адзічэла матляць галавою, нешта блюзніць- мумкаць, вырывацца.

– Ды вось у псіхушку вязём, – сказаў шафёр. – А ў калгасе, акрамя грузавікоў, больш машын ніякіх няма.

– Глядзіце ж, асцярожней, – параіў міліцыянер.

## ПРАДАЙ КУРЭЙ

Настаўніца-пенсіянерка купіла яшчэ пры добрым часе хатку ў вёсцы – пад дачу. Сад, агарод. З жыўнасці трымала толькі курэй. Перад восенню вывеліся кураняткі – ажно шаснаццаць. І добра, і кепска. Кепска – зіма ж на носе, ці падрастуць, ці аперацца. Але як бы там не было, жанчына радавалася: купіць – грошай вялікіх каштуюць, а тут – сваё... Ды вось бяда: захварэла, дактары настойліва раяць паляжаць у бальніцы, а яна – чалавек адзінокі. На каго пакінуць хатніх птушак? Папрасіла прыгледзець за імі суседку – бабульку паважанага веку. Прайшло тыдні два. Настаўніца-пенсіянерка папрасілася з бальніцы на дзянёк, каб з’ездзіць глянуць, як там куры: душа ж баліць.

– Ведаеш што, маладзіца,– сказала бабулька-суседка, – цяжкавата мне прыглядаць за тваімі курамі. Ды і навошта яны табе? Хварэеш во... Прадай іх мне?

## АДКРЫЎ КУРОРТ

Іван быў такім чалавекам, які пасля добрай чаркі людзей насмяшыць. Неяк улетку перабраў ён, а па дарозе ад крамы спыніўся каля лужыны, у якой грэліся на сонейку парсюкі, прагнаў тых і сам плёскаецца, лепіць на валасатыя грудзі гразь. Людзі сабраліся. Пацяшаюцца. Канцэрт дый годзе!

Іван жа пасылае ім слоўцы:

– Чаго вочы вылупілі? Я ж вам курорт адкрыў... А вы на мора меціце! Во яно, мора! Чорнае! І блізка, і бясплатнае! А гразі ў нас яшчэ лепшыя, чым у любым санаторыі. Век пражылі і не бачылі, сляпцы!

## А САМ?

Восень. Капаем бульбу. Падыходзіць сусед Валодзька.

– Дробненькая ў вас бульба, – заўважае ён.

– А сам які? – паглядзела на суседа жонка.

А праўда ж – дробненькі і сам Валодзька, як хлопчык. Як маленькая бульбінка сярод буйнай – так і ён сярод людзей.

## КАЛЯ ПРАХАДНОЙ

Рэйсавы аўтобус з абласнога цэнтра спыняецца каля прахадной спіртзавода – канчатковы прыпынак. Пасажыры высыпалі з яго, разыходзяцца ў розныя бакі. Адзін хлапчына, праходзячы каля прахадной завода, ціхенечка заспяваў:

– Та заводская проходная, что в люди вывела меня...

Жанчына, якая тупала ззаду, заўважыла:

– Ды багата каго яна ў людзі вывела, халера, гэтая прахадная!..

## НУ, ЯК ЖЫЦЦЁ

– Ай, не кажы! Як п’ю – баліць толькі галава, а не п’ю – усё...

## НУ, ЯК ЖЫЦЦЁ?

– Ай, не кажы! Такія грошы вялікія заплаціла дактарам... за медыцынскае адбследванне... а яны нічога не знайшлі.

## НУ, ЯК ЖЫЦЦЁ?

– Ай, не кажы! Як трэба было любіць жанчын – піў гарэлку, а як кінуў і не п’ю – ужо позна любіць жанчын.

## НУ, ЯК ЖЫЦЦЁ?

– Ай, не кажы! Сказаць, што добра – не паверыш, сказаць што дрэнна – не паможаш. А скардзіцца я не люблю!

## НУ, ЯК ЖЫЦЦЁ?

– Ай, не кажы! Панесла аналізы, а доктар кажа: хопіць нам галаву марочыць – пара паміраць. Дык я ўжо другі год бачком абыходжу бальніцу.

## НУ, ЯК ЖЫЦЦЁ?

– Ай, не кажы! Але калі па вялікаму рахунку, то добра. Учора ўкраў на сваім вінзаводзе дзве бутэлькі віна, загнаў, а грошы – прапіў!

## НУ, ЯК ЖЫЦЦЁ?

– Ай, не кажы! Сын вярнуўся з Масквы з заробкаў, дык апошнія грошы аддала яму на курава.

**ЗМЕСТ**

Мазыр
2001
Катэгорыя: Мастацкая літаратура
Рэдактар В.Ардашава
Мазырская узбуйненая друкарня

Васіль Ткачоў часта выступае перад сваімі чытачамі. У кнізе “Хітры сват” сабраны лепшыя гумарыстычныя творы пісьменніка – на памяць аб такіх сустрэчах.